№6(102)
Сакавік 2002

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"

## Абрабаваны офіс

У ноч з 16 на 17 сакавіка невядомыя ўзламалі замок у кватэры, дзе месьціцца офіс Брэсцкага абласнога аддзяленьня Праваабарончага цэнтру "Вясна", і вынесьлі два кампутары, два маніторы, прынтар, тэлефон-факс, ксеракс, стабілізатар, мадэм, сканер, два дыктафоны, фотаапарат, зараднае прыстасаваньне, магнітафон.

Па факце крадзяжу кампутарнай тэхнікі была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 205 КК РБ, ч.3.

## Адлічаныя з тэхнікуму

20 сакавіка з трэцяга курсу Магілёўскага палітэхнічнага тэхнікуму былі адлічаныя Аляксандр Паўловіч і Аляксандр Каліта. Юнакі зьяўляюцца актывістамі моладзевага руху "Зубр". Нагадаем, Аляксандр Паўловіч 14 сакавіка судом Шклоўскага раёну быў прызнаны вінаватым па крымінальнай справе аб "публічнай абразе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, г.зн. злачынства, якое прадугледжанае часткай 1 артыкула 368 КК Рэспублікі Беларусь". Непаўнагадовы А.Паўловіч быў аштрафаваны на 20 мінімальных заробкаў.

Аляксандр Каліта за сваю палітычную актыўнасьць (распаўсюджваньне друкаванай прадукцыі і агітацыйных матэрыялаў падчас перадвыбарчай кампаніі) неаднаразова прыцягваўся да адміністратыўнай адказнасьці.

Рашэньне аб выключэньні было прынятае адміністрацыяй навучальнай установы са згоды камісіі па справах непаўнагадовых Ленінскага раёну г. Магілёву.



# Сумная традыцыя

### Дзень Волі беларускія ўлады зноў адзначылі масавымі арыштамі






Сёлетняе сьвяткаваньне Дня Волі па меркаваньні яго арганізатараў павінна было мець мірны, неканфрантацыйны характар. Людзі сабраліся ў Купалаўскім скверы, каб ускласьці кветкі да помніку Янку Купалу, прасьпяваць разам нацыянальны гімн "Магутны Божа", паслухаць песьні ў выкананьні папулярных беларускіх рок-гуртоў і бардаў, а потым прайсьці да помніку яшчэ аднаму песьняру Беларусі – Якубу Коласу – і таксама ўскласьці кветкі.

У 12 гадзінаў 24 сакавіка ў Купалаўскім скверыку сабралася каля дзьвюх тысячаў сьвяточна апранутых менчукоў з кветкамі, з бел-чырвона-белымі стужкамі і сьцяжкамі. Пасьля ўскладаньня кветак і сьпяваньня гімну людзі накіраваліся ў бок плошчы Якуба Коласа, але выхад са скверыку ім перагарадзілі дзясяткі амапаўцаў. Нейкі міліцэйскі чын у цывільным запатрабаваў у лідэраў Беларускага народнага фронту Вінцука Вячоркі і Віктара Івашкевіча, якія ішлі паперадзе, каб грамадзяне згарнулі нацыянальныя сьцягі, бо інакш

(Працяг на стар 2-3)

# Сумная традыцыя

*(Пачатак на стар.1)*
"калона, што кіруецца да плошчы Якуба Коласа, будзе расцэненая як несанкцыянаванае шэсьце". Пасьля перамоваў сьцягі былі згорнутыя, аднак людзі змаглі дайсьці толькі да плошчы Перамогі. Там дарогу ім перагарадзілі сотні амапаўцаў са шчытамі і з дубінкамі, у шлемах, за якія ў Мінску іх даўно ахрысьцілі – "касманатаўтамі". Міліцыянты адразу ж пачалі расправу над мірнымі людзьмі. Хапалі ўсіх, хто трапляўся на шляху, у тым ліку выпадковых сьведкаў і журналістаў. Карэспандэнта агенцтва "Рэйтар" ***Васіля Фядосенку*** зацягнулі ў аўтобус і парвалі ягонае пасьведчаньне і білет у Афганістан, куды ён у гэты дзень павінен быў ляцець у камандзіроўку. У фотакарэспандэнта расійскага агенцтва ІТАР-ТАСС ***Віктара Талочкі*** разьбілі дарагую фотаапаратуру. На плошчы Якуба Коласа былі арыштаваныя адзінаццаць жанчынаў, якія зьбіраліся сустрэць калону выкананьнем народных песьняў. Былі затрыманыя ***Вячаслаў Сіўчык, Павел Севярынец, Людміла Гразнова, Валеры Шчукін, Зьміцер Бандарэнка*** і іншыя вядомыя беларускія дзеячы. Усяго 24 сакавіка ў Мінску арыштавана больш за 60 чалавек.

Юрыст Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч так пракаментаваў тое, што адбывалася: "Спачатку ўсё было дастаткова мірна. Пасьля на скрыжаваньні праспекту Скарыны і вуліцы Варвашэні супрацоўнікі міліцыі перакрылі ходнікі, пачалі зьбіваць і затрымліваць людзей. Я бачыў, як адну жанчыну ўдарылі галавой аб рэкламны шчыт. Камандаваў затрыманьнямі чалавек у цывільным, у якім пазналі афіцэра ГУУСа Русака. Затрыманьні працягваліся і на плошчы Якуба Коласа. Людзей (у асноўным сталага ўзросту), якія прыйшлі ўскласьці кветкі да помніку паэту Якубу Коласу, зьбівалі дубінкамі і зацягвалі ў аўтобусы".

Затрыманыя былі дастаўленыя РУУС Цэнтральнага і Савецкага раёнаў г.Мінску.

Сярод затрыманых:
1. ***Герасімаў Валеры***
2. ***Саўка Уладзіслаў*** (13 гадоў)
3. ***Саўка Зьміцер***
4. ***Кійко Рыгор***
5. ***Кійко Натальля***
6. ***Бандарэнка Зьміцер***
7. ***Ягорава Ганна***
8. ***Дранчук Цімафей***
9. ***Новік***
10. ***Ягораў Андрэй***
11. ***Зяньковіч Юрась***
12. ***Ляховіч Андрэй***
13. ***Сіўчык Вячаслаў***
14. ***Севярынец Павел***
15. ***Шчукін Валеры***
16. ***Пікуль Яўгенія***
17. ***Пальчэўскі Юрась***
18. ***Прасаловіч Анатоль***
19. ***Носаў Дзяніс***
20. ***Лысакоў Сяржук***
21. ***Зайкоўскі Эдвард***
22. ***Карпенка Дзьмітры***
23. ***Некрашэвіч Эля***
24. ***Ваюшына Валянціна***
25. ***Ахрэмчык Аксана***
26. ***Ачапоўскі Лявон***
27. ***Смольскі Аляксей***
28. ***Ігнатовіч Уладзіслаў***
29. ***Гвоздзеў Сяргей***
30. ***Гвоздзеў Міхась***
31. ***Шэршань Ірына***
32. ***Пярцоўскі Аркадзь***
33. ***Лавіцкі Мікола***
34. ***Таўстко Андрэй***
35. ***Яловая Тацяна***
36. ***Кшык Пётр***
37. ***Ярмоленка Арцём***
38. ***Сіўчык Ганна***
39. ***Шэвяленка Аляксандр***
40. ***Трыфанаў Сяргей***
41. ***Садоўскі Лявон***
42. ***Дашкевіч Зьміцер***
43. ***Папкоў Кірыла***
44. ***Таўстыка Андрэй***
45. ***Бязьдзенежны Сяргей***
46. ***Русаў Пётр***
47. ***Кавешнікаў Віктар***

Сьпіс затрыманых удакладняецца.

Акцыі ў гонар 84-гадавіны абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі прайшлі 24 сакавіка і ў некаторых іншых гарадах краіны.

У ***Гародні*** ў несанкцыянаваным мітынгу прынялі ўдзел каля 500 чалавек. Затрыманыя 22 чалавекі, у тым ліку намесьнік старшыні Партыі БНФ ***Юры Хадыка***. ***Вадзім Саранчукоў*** пры затрыманьні быў зьбіты. Арыштаваная таксама былы старшыня Сялянскай партыі ***Яўген Лугін*** і два журналісты – карэспандэнт газеты "Глос над Немнам" ***Андрэй Пачобут*** і супрацоўніца закрытай уладамі газеты "Пагоня" ***Алеся Сідаровіч***.

Актывістка Праваабарончага цэнтру "Вясна" Ірына Данілоўская паведаміла з Гародні: "Людзі хацелі прайсьці да Археалагічнага музею. У іх была мэта — ўскласьці кветкі. Але там сталі кардоны міліцыі — некага прапускалі, а на некага адразу паказвалі рукой і затрымлівалі. Гэта ўсё адбывалася ў цэнтры гораду і на вуліцы Савецкай. Удзельнікі акцыі сьведчаць, што бачылі, які міліцыянты зьбівалі пяцёх маладых хлопцаў. Рабілі гэта не навідавоку, а ў завулку. Білі нагамі, павалілі на зямлю і білі. У Новы Замак прайшлі каля 40 чалавек – ім удалося ўскласьці кветкі каля мемарыяльнай дошкі ў гонар паўстанцаў Тадэвуша Касьцюшкі".

Сярод затрыманых:
1. ***Хадыка Юры***
2. ***Мальчык Сяргей***
3. ***Саранчукоў Вадзім*** (абвінавачваецца ў арганізацыі акцыі)
4. ***Сазонаў Віктар***
5. ***Лугін Яўген***
6. ***Дзьмухоўскі Эдвард***















7. **Іваноўскі Дзьмітры**
8. ***Нех Сьвятлана***
9. ***Патрэба Міхаіл***
10. ***Гом Мікола***
11. ***Завадзкі Алег***
12. ***Лапеха Ігар***
13. ***Сідлярэвіч Алена***
14. ***Станкутэ Рэгіна***
15. ***Шустоўскі Андрэй***
16. **Пачобут Андрэй**
17. ***Рамашка Раман***
18. ***Лемяноўскі Мікола*** (абвінавачваецца ў арганізацыі акцыі)
19. ***Шабунька Яўген***
20. ***Кучар Аляксей***

Сьпіс затрыманых удакладняецца.

У ***Маладэчне*** 25 сакавіка ў Дзень Волі прадстаўнікі дэмакратычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў усклалі кветкі да помніка М.К. Агінскага, які стаіць побач з музычнай вучэльняй, а таксама да памятнага знаку "Пакутнікам за волю і незалежнасьць Беларусі", што знаходзіцца ў цэнтры гораду.

Ускладаньню кветак да помніку М.К. Агінскага, у якім прымала ўдзел каля ста чалавек, ніхто не перашкаджаў. Гэтае мерапрыемства прайшло спакойна і арганізавана. Чаго нельга сказаць пра ўскладаньне кветак да памятнага знаку "Пакутнікам за волю і незалежнасьць Беларусі", бо гэтаму перашкаджалі супрацоўнікі міліцыі пад кіраўніцтвам маёра, які не назваўся, і старэйшага лейтэнанта Кошаля.

У выніку супрацоўнікі міліцыі затрымалі, па іх словах для размовы, ***Баланчука Эдуарда, Капуцкага Аляксандра*** і ***Боскіна Сяргея***, а таксама забралі зарэгістраваны сцяг РГА "БНФ" Адраджэньне".

25 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёну г. Мінску адбыліся судовыя разгляды адміністратыўных справаў удзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі ў Мінску 24 сакавіка.

Судзьдзі Тацяна Паўлючук і Наталя Вайцяховіч вынеслі наступныя рашэньні:

1. ***Смольскі Аляксей*** – штраф 20 мін. заробкаў;
2. ***Таруліс Дзьмітры*** – штраф 20 мін. заробкаў;
3. ***Шэвяленка Аляксандр*** – папярэджаньне;
4. ***Герасімаў Валеры*** – штраф 20 мін. заробкаў;
5. ***Трыфанаў Сяргей*** – папярэджаньне;
6. ***Садоўскі Лявон*** – штраф 20 мін. заробкаў;
7. ***Дашкевіч Зьміцер*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;
8. ***Ляховіч Андрэй*** – папярэджаньне;
9. ***Папкоў Кірыла*** – папярэджаньне;
10. ***Бандарэнка Зьміцер*** – суд перанесены на 2 красавіка;
11. ***Пальчэўскі Юрась*** – папярэджаньне;
12. ***Зайкоўскі Эдвард*** – суд перанесены на 29 сакавіка;
13. ***Лавіцкі Мікола*** – папярэджаньне;
14. ***Таўстыка Андрэй*** – папярэджаньне;
15. ***Бездзенежны Сяргей*** – папярэджаньне;
16. ***Русаў Пётр*** – штраф 20 мін. заробкаў;
17. ***Ігнатовіч Уладзіслаў*** – суд перанесены на 1 красавіка на 15.30;
18. ***Севярынец Павел*** – суд перанесены на26 сакавіка;
19. ***Карпенка Дзьмітры*** – суд перанесены на 27 сакавіка;
20. ***Ачапоўскі Лявон*** – суд перанесены на 3 красавіка;
21. ***Дранчук Цімафей*** – суд перанесены на 29 сакавіка;
22. ***Кавешнікаў Віктар*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;
23. ***Сіўчык Вячаслаў*** – 15 сутак адміністратыўнага арышту. Судзьдзя Наталя Вайцяховіч абвясьціла рашэньне толькі ў 19.20;
24. ***Гумін Андрэй*** – папярэджаньне.

На працягу тыдня (25-31 сакавіка) ў судзе Ленінскага раёну г. Гародня адбываліся судовыя разгляды адміністратыўных справаў удзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі.

Вынесеныя наступныя рашэньні:

1. ***Мальчык Сяргей*** (актывіст Праваабарончага цэнтру "Вясна") – 10 сутак адміністратыўнага арышту. Абвясьціў галадоўку;
2. ***Саранчукоў Вадзім*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту (прысуд быў вынесены завочна, абвінавачаны паукль знаходзіцца на волі);
3. ***Рамашка Раман*** – папярэджаньне;
4. ***Патрэба Міхась*** – папярэджаньне;
5. ***Сазонаў Віктар*** – штраф 20 мінімальных заробкаў (200 000 рублёў);
6. ***Лемяшэўскі Мікола*** – штраф 150 мінімальных заробкаў (1 500 000 рублёў);
7. ***Лебядзеў Максім*** – папярэджаньне;
8. ***Нех Сьвятлана*** – штраф 50 мінімальных заробкаў (500 000 рублёў).

29 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёну г.Мінску адбыліся суды над удзельнікамі сьвяткаваньня Дня Волі ў Мінску. Вынесеныя наступныя рашэньні:

***Зайкоўскі Эдвард*** – папярэджаньне;
***Сіўчык Ганна*** – папярэджаньне.

*На здымках – Дзень Волі ў Мінску.*



# "І ТАДЫ МЯНЕ ПАЦЯГНУЛІ Ў АЎТОБУС..."

## *Сьведчаньні затрыманых падчас сьвяткаваньня Дня Волі ў Мінску*

***Рашэтнікава Алена:***

"24 сакавіка я прымала ўдзел у сьвяткаваньні Дня Волі. Каля ўваходу ў метро "Станцыя Якуба Коласа" я зьвярнула ўвагу на тое, што людзі стаяць і нікуды не праходзяць. Я прайшла наперад і ўбачыла шчыльны шэраг супрацоўнікаў міліцыі, якія не прапускалі людзей. Потым амапаўцы пачалі адціскаць людзей назад. На маіх вачах адзін амапавец разьбіў фотаапарат карэспандэнту. Побач сталі зьбіваць маладых людзей... Я ня ведала, што рабіць. Першая думка была – спусьціцца ў метро, але я ўзгадала пра трагедыю, што адбылася ў 1999 годзе на станцыі "Няміга". З усіх бакоў я і іншыя людзі былі акружаныя шчыльным колам амапаўцаў, якія пачалі ўсіх цягнуць у аўтобусы. Да мяне падскочыў амапавец, я папрасіла яго, каб мяне ня білі і не забіралі. Аднак ён не прыслухаўся. Прычыну затрыманьня мне не растлумачылі. Прыкладна ў 14.30 мяне даставілі ў РУУС Цэнтральнага раёну г.Мінску. Я прасіла, каб мяне хутчэй адпусьцілі, бо ў мяне дома малое дзіця – трох гадоў. Калі на мяне складалі пратакол, я зьвярнула ўвагу, што на маім пратаколе распісваюцца два амапаўцы, якія ня маюць да майго затрыманьня ніякога дачыненьня. Я спытала, чаму яны гэта робяць. Мне нічога ня сталі тлумачыць. Я папрасіла, каб мяне адвялі да начальніка, але мне адмовілі, сказалі: "Суд разьбярэцца!"

***Ярмоленка Арцём:***

"Калі мы дайшлі да плошчы Перамогі, там стаяў кардон міліцыі. Калона спынілася. Потым была дадзеная каманда арыштоўваць людзей. Да мяне падбег амапавец і ўдарыў у вобласьць сонечнага спляценьня. Мяне пацягнулі ў аўтобус. Праз некалькі хвілінаў у аўтобус упіхнулі яшчэ некалькі журналістаў, аднаго з іх пачалі біць. Але ў аўтобус зайшоў нейкі чалавек і нешта сказаў амапаўцам. Журналіста адпусьцілі і папрасілі прабачэньня, а нас павезьлі ў РУУС Цэнтральнага раёну г.Мінску. Там я знаходзіўся 2 гадзіны 45 хвілінаў, пакуль мяне не забраў дзед".


Фота "ПВ"

# Андрэй КЛІМАЎ:
# "Магчыма, мне давядзецца пасупернічаць з Лукашэнкам..."

*Размова карэспандэнта "Права на Волю" з Андрэем Клімавым адбылася праз некалькі дзён пасьля яго вызваленьня ў офісе Праваабарончага цэнтру "Вясна", куды Андрэй прыйшоў разам са сваёй жонкай Тацянай. Малады, прывабны, энергічны і эмацыйны, ён мала чым адрозьніваўся ад таго Клімава, які добра запомніўся па ранейшых парламенцкіх выступах...*

***– Андрэй, вы больш за чатыры гады правялі ў зьняволеньні. Якім чынам паўплываў на вас гэты час?***

– Я пачаў больш цаніць радасьць жыцьця. У чым яго хараство? Ва ўсім. Нават засмучэньне – гэта эмоцыі, якія прымушаюць цябе думаць. Горш за ўсё, калі ты замыкаесься ў сабе і перастаеш заўважаць усё – і кепскае, і добрае. Кепска ж бывае ня толькі табе, але і іншым. А калі ўлічыць, што я выконваў у нейкай ступені пэўную місію апазіцыі, то мэта стаяла ня толькі захаваць сябе, але і дапамагчы іншым. Таму я павінен быў быць моцным. А каб быць моцным – трэба быць аптымістам. У 1996 годзе мы з Віктарам Ганчаром ведалі, з кім распачалі барацьбу. Мы рыхтаваліся да ўсяго, хаця тое, што адбылося з Віктарам, цяжка было і ўявіць.

***– Знаходзячыся ў зьняволеньні, вы, вядома, сачылі за падзеямі, якія адбываюцца ў краіне. Вас рэаліі сёньняшняга дня расчароўваюць?***

– Вельмі балюча і горка... Адзінае, што мяне трохі супакойвае, мой выхад з турмы – гэта хоць і маленькая, але ўсё ж перамога. Гэта не асабіста мая перамога, а апазіцыі, праваабарончых арганізацыяў, у тым ліку і вашай.

А ўвогуле, тое, што адбываецца ў краіне – проста катастрофа. Беларускі народ зрабіўся нейкім мазахістам – людзям нібыта падабаецца, калі над імі зьдзекуюцца. Ад гэтага, відаць, такая абыякавасьць да таго дэспатызму, які ўлада ажыцьцяўляе з апазіцыйнымі лідэрамі, праваабаронцамі. Грамадзтва раз'ядае абыякавасьць, і перш за ўсё – да саміх сябе. Трэба выконваць тыя законы, якія ёсьць зараз і патрабаваць іх выкананьня ў адносінах да сябе. Ня кожны здольны ўзяць на сябе адказнасьць за іншага чалавека. Але што тычыцца самога сябе – гэтага неабходна патрабаваць.

Я рады таму, што я на волі – гэта каштоўны дар. У мяне вельмі шмат аднадумцаў, я буду спрабаваць дайсьці да кожнага беларуса. Пакуль я буду працаваць з АГП, потым планую заняцца праваабарончай дзейнасьцю, у тым ліку – падтрымліваць праваабарончыя арганізацыі, якія аказалі мне дапамогу. Са мной жа магло адбыцца ўсё што заўгодна, і тая ўвага, якую вы мне ўдзялялі, магчыма, і выратавала мне жыцьцё. І я, і мая сям'я вам за гэта бясконца ўдзячныя.

***– Сёньня вельмі цяжка адолець тую апатыю, якая пануе ў грамадзтве пасьля выбараў. Вы зараз***


Фота "ПнВ"

***як наноў народжаны, што, на вашую думку, трэба рабіць?***

– Шлях толькі адзін – змагацца з існуючым рэжымам, а дакладней – з дэспатызмам. З дзяржавай змагацца немагчыма, бо дзяржава ўрэшце рэшт – гэта мы. Змагацца трэба з дэспатызмам уладаў. Перш за ўсё неабходна зразумець, што любая дыктатура трымаецца на парушэньні законаў – нават тых, якія сама стварае. Таму неабходна дабівацца выкананьня законаў на любым узроўні – ад кожнага "вертыкальшчыка" да прэзідэнта. Асабіста я лічу, што мой выхад на волю – гэта ўжо пацьверджаньне таго, што цяперашні прэзідэнт баіцца грамадзкай і міжнароднай думкі. Вельмі сумна, што Расія пакуль заахвочвае ягоныя дзеяньні ў парушэньні правоў чалавека і падаўленьні дэмакратычных інстытутаў нашай краіны. Таму ўсім неабходна разумець, і тым, хто займаецца праваабарончай дзейнасьцю ці палітыкай, што падтрымку нашай краіны мы можам знайсьці толькі на Захадзе. Неабходна пашыраць свае кантакты на еўрапейскім палітычным полі. Гэта дзіўны факт, але калі мне пісалі лісты з Амерыкі простыя грамадзяне са словамі падтрымкі – яны пісалі ў Расію. Дакладней, адрас быў беларускі, але яны лічылі, што я знаходжуся ў Расіі. Яны ня ведаюць, што існуе Беларусь. Як можна мець падтрымку на Захадзе, калі людзі ня ведаюць такой краіны, як Беларусь. Вельмі шкада, але ізаляцыя, утвораная Лукашэнкам, проста пераўтварыла нас у нейкую чорную дзірку – мы нібыта не існуем. Таму задача, у тым ліку і мая, – данесьці да вядучых палітыкаў Еўропы і ЗША тое, што ў Беларусі ёсьць альтэрнатыва Лукашэнку, існуюць і палітычныя партыі, і праваабарончы рух, якія гатовыя ня толькі адстойваць правы чалавека, але і будаваць дзяржаву на дэмакратычнай аснове. Гэта вельмі актуальна пасьля 11 верасьня, калі практычна ўвесь сьвет убачыў, адкуль зьяўляюцца тэрарысты, што ўразаюцца ў хмарачосы. Цывілізаваныя краіны зразумелі, адкуль ідзе пагроза. Але самае страшнае – гэта тое, што да 11 верасьня была небясьпека прызнаньня дыктатуры Лукашэнкі, усё ішло да таго. Мала таго, што апазіцыя літаральна добраахвотна дапамагла Лукашэнку перамагчы ў гэтых выбарах, яна ледзь не дапамагла яму стаць прызнаным ва ўсім сьвеце, прыняўшы ўдзел у гэтых выбарах.

Аднак трэба прызнаць, што на сёньняшні дзень у Беларусі Лукашэнка – самы вядомы і самы моцны палітык. Яму пакуль альтэрнатывы няма. Яе трэба ствараць. Гэта першае. Другое: дзеля таго, каб стварыць альтэрнатыву, трэба быць упэўненым, што гэтага чалавека ня будзе чакаць лёс Віктара Ганчара ці Генадзя Карпенкі.

У альтэрнатыву трэба паверыць, але паверыць не падчас прэзідэнцкіх выбараў, а нашмат раней. Людзі павінны ведаць, што нехта можа іх абараніць, яны могуць на некага разьлічваць. Але абяцаньнямі сытым ня будзеш. Калі ты заяўляеш, што я ўсё зраблю пасьля выбараў, я ўсім дапамагу – гэта азначае, што ты проста перараьзмяркуеш пакуты: нехта будзе пакутаваць менш, нехта больш, але праблемы ад гэтага не вырашаюцца. А праблемы трэба вырашаць ужо сёньня. Ужо цяпер нехта павінен узьдзейнічаць на ўладныя структуры, якія парушаюць законы, абкрадаюць людзей, на тых вышэйшых службовых асобаў у дзяржаве, якія зьдзяйсьняюць міжнародныя злачынствы, прадаючы зброю ў краіны, якія знаходзяцца ў стане вайны з усім цывілізаваным сьветам.

Эканоміка Беларусі жыве выключна за кошт экспарту. Без сусьветнага рынку, без Сусьветнай гандлёвай арганізацыі, без Еўропы нам ня выжыць. Мы зацыкліліся на Расіі, але ніхто ня хоча разумець простай рэчы – мы Расіі не патрэбныя.

Да 11 верасьня ў сьвеце даволі спакойна ўспрымалі Лукашэнку. Сёньня ў Еўропе і Амерыцы трэба паказаць, што калі своечасова не падтрымаць тут дэмакратычныя інстытуты, праваабарончыя арганізацыі, то сітуацыя можа стаць некіруемай. І адбудзецца гэта не ў Афганістане, Пакістане, Іраку, а ў цэнтры Еўропы. Калі сярод белага дня зьнікаюць людзі – вядомыя палітыкі – гэта ненармальна, гэта можа мець наступствы. Улада злачынная, улада нецывілізаваная, значыць – ад яе далей можа чакаць яшчэ большых злачынстваў. На сёньняшні дзень усім па-

лiтыкам, якiя на нешта прэтэндуюць у Беларусi, трэба заняцца зьнешнепалiтычнай працай. Бо, падкрэсьлiваю, пра Беларусь у сьвеце ня ведаюць. Хто езьдзiць за мяжу, дзеля чаго туды езьдзяць i наколькi эфектыўнымi былi тыя паездкi? Іх мэта? Мяркую, што гэтай працы было недастаткова.

Што тычыцца народу, дык каб быць зразуметым трэба дайсьцi да яго, а ня зьнiкнуць, як Ганчар. Калi беларускi палiтык не карыстаецца вядомасьцю на Захадзе, калi ён ня мае такой падтрымкi, якую Лукашэнка мае ў Расii, то да вёскi ён не даедзе. Больш за тое, любому палiтыку задаюць канкрэтнае пытаньне: што вы можаце даць, акрамя таго, што i бяз вас абяцае Лукашэнка? Бо палiтычныя прынцыпы – перш за ўсё для палiтыкаў. Народ кожны дзень павiнен есьцi, нешта апранаць, за нешта выхоўваць дзяцей. Людзi гавораць: калi вы ў стане пераарыентаваць нашу эканомiку на Эўропу – дакажыце гэта. Павiнны быць гарантыi. Калi Ельцын уступiў у супрацьстаяньне з Гарбачовым, у яго была дакладная гарантыя, што яго падтрымаюць Захад i ЗША. І яны ўсё зрабiлi, калi ён прыйшоў да ўлады, каб ён утрымаўся. І славутыя "ножкi Буша" – адно з пацьверджаньняў таго. Тое ж i Беларусi – павiнна быць гарантыя, што мы ня будзем жыць горш, чым жывем. А калi будзем жыць аднолькава, дык нашто нехта новы? Дастаткова таго, хто ёсьць.

***– Як вы ставiцеся да таго, што ў апошнi час у прэсе зьявiлiся публiкацыi, у якiх абмяркоўваецца пытаньне пра вашу магчымую ролю палiтычнага лiдэра?***

– Мае палiтычныя амбiцыi распаўсюджваюцца пакуль на тое, каб працаваць з АГП. Чатыры гады ў iзаляцыi зрабiлi сваю справу. Мне трэба ацанiць сiтуацыю, што тут склалася. Мне трэба ацанiць свае моцныя i слабыя бакi, вызначыць, з чаго пачынаць i як гэта рабiць. Асабiста я лiчу, што лiдэр – гэта ня той чалавек, якi мае права на першы голас цi першую тронную прамову. Гэта чалавек, якi б змог узяць на сябе адказнасьць давесьцi ўсё да канца. Другое, гэта чалавек, якi б змог аб'яднаць намаганьнi ўсiх апазiцыйна настроеных грамадзянаў i палiтыкаў. Трэцяе, гэта чалавек, якому вераць. Чацьвёртае, гэты чалавек павiнен быць бездакорным, у iм не павiнныя сумнявацца – перш за ўсё паплечнiкi. Пятае, ён павiнен быць вядомай асобай, павiнен актыўна займацца палiтычнай дзейнасьцю, кожны дзень быць на вачах. І апошняе – гэтага чалавека павiнны прызнаваць на Захадзе як альтэрнатыву. Без усiх гэтых пунктаў бессэнсоўна нешта пачынаць. Калi шчыра, сёньня я не гатовы ўзвалiць на сябе такi груз. Не таму, што я ня ведаю, як гэта можна ажыцьцявiць, а таму, што гэта вялiкая адказнасьць. Таму я на сёньняшнi дзень скажу наступнае – пакуль для мяне лiдэр i аўтарытэт у апазiцыйным руху – Анатоль Лябедзька. Да ягонага меркаваньня я прыслухоўваюся. Ён для мяне правераны чалавек, я яму давяраю. Як будзе далей – пакажа час. Калi Лукашэнка не пакiне мне альтэрнатывы, калi нашы апазiцыйныя палiтыкi не дамовяцца, магчыма, мне давядзецца пасупернiчаць з Лукашэнкам. Але мне не хацелася б гэтага рабiць, паколькi, на мой погляд, ёсьць больш вартыя, iнфармаваныя i вопытныя людзi ў палiтыцы. Асабiста я лiчу, што пакуль мне трэба некаторы час прызвычаiцца да зьменаў, што адбылiся. Замест таго, каб адстойваць свае асабiстыя iнтарэсы, я буду дапамагаць апазiцыйным палiтыкам, якiя працуюць цяпер.


Андрэй КЛІМАЎ з жонкай Тацянай падчас сустрэчы ў ГА ПЦ "Вясна". Фота "ПнВ"

***– Вы ўжо былi ў Зiнаiды Ганчар?***

– Я ёй патэлефанаваў. Яна была вельмi рада. Мне цяжка было тэлефанаваць, таму што я не магу звыкнуцца з думкай, што Вiктара няма.

***– Калi вы пачулi пра тое, что Ганчар зьнiк, якой была ваша рэакцыя?***

– Памятаеце, у Вiктара стралялi, паранiлi сакратара, была прастрэленая машына. Мне ён казаў пра тое, што з iм можа здарыцца ўсё. І калi здарылася, я не сумняваўся, хто гэта зрабiў, i якая задача стаяла. Я думаю, што на сёньняшнi дзень Лукашэнка стаiць перад сур'ёзным выбарам: цi ён павiнен узвалiць на сябе вiну за выкраданьне i магчымую гiбель Вiктара Ганчара i адказаць за гэта, цi ён павiнен усё ж давесьцi расьсьледаваньне да канца i даць магчымасьць паўстаць перад судом тым, хто гэта зьдзейсьнiў. Я не сумняваюся, што гэтыя людзi ў Беларусi, яны пры пасадах. І больш за тое – маюць уладныя паўнамоцтвы органаў альбо Камiтэту дзяржбясьпекi, альбо Унутраных справаў. Толькi яны маглi зьдзейсьнiць злачынства i застацца беспакаранымi пры гэтым.

***– Як у вас складалiся адносiны з людзьмi падчас зьняволеньня?***

– Часам не зусiм добрыя адносiны былi. Для большасьцi зьняволеных Лукашэнка – аўтарытэт. Не таму, што яго любяць цi ён такi добры палiтык, а таму, што ён падпiсвае амнiстыю. А для iх амнiстыя – усё, нягледзячы на тое, што праз некаторы час яны зноў трапляюць за краты. Што тычыцца кантынгенту ўвогуле, то там сядзiць шмат невiнаватых людзей. Я ўпэўнены на сто адсоткаў, што ўсе бiзнэсоўцы, якiя сядзяць па эканамiчных артыкулах – гэта самавольства ўладаў. Калi падыходзiць так, як падыходзiлi да рашэньня iх крымiнальных справаў, дык можна перасадзiць усiх бiзнэсоўцаў, i нават тых, хто яшчэ не нарадзiўся. Бо адразу маецца на ўвазе, што любое дзеяньне, зьвязанае з незалежнай ад дзяржавы эканамiчнай дзейнасьцю, – злачыннае. Менавiта так трактуецца сёньняшнiмi органамi ўлады. Шмат выпадковых людзей, якiя зьдзейсьнiлi злачынствы па неасьцярожнасьцi. Шмат разумных людзей, з якiмi я мог знайсьцi агульную мову, якiя мяне падтрымлiвалi, нягледзячы на тое, што яны прайшлi праз больш складаныя выпрабаваньнi, чым я ў пенiтэнцыярнай сiстэме. Я не магу назваць колькi, але чацьвёртая частка зьняволеных, якiя знаходзяцца за калючым дротам – гэта невiнаватыя людзi.

***– Цi сустракалiся вы з Юрыем Бандажэўскiм?***

– Калi я пабачыў Бандажэўскага за кратамi – гэта быў шок. Зразумела, я бiзнэсоўца, можна за нешта зачапiць, але прафесар, доктар медыцынскiх навук, вядомая асоба, чалавек, якi займаўся сьвятой справай: казаў праўду пра Чарнобыльскую трагедыю, якую так старанна iмкнецца замяць сёньняшняя ўлада – яго кiнулi практычна на зьнiшчэньне. Яму вельмi цяжка ў такiх умовах. І перш за ўсё ён пакутуе ад таго, што ня можа займацца навуковай дзейнасьцю.

***– Дык усё ж, што вы выбiраеце: палiтыка – праваабарончая дзейнасьць?***

– Гэта непадзельна. Трэба выразна ўяўляць: каб падыйсьцi да наступных выбараў з нармальным палiтычным капiталам, сёньняшняя апазiцыя павiнна дайсьцi да кожнага грамадзянiна праз дапамогу яму. Эканамiчна ўсiм мы ня ў стане дапамагчы, але абаранiць iх правы мы абавязаныя. Хаця б паспрабаваць гэта. Калi мы ня зможам зрабiць гэта зараз, у выбарах удзельнiчаць бессэнсоўна, як i ў мiнулых.

***– Вы ня першы, хто, выйшаўшы на волю, заяўляе пра намер актыўна працягваць палiтычную дзейнасьць. Потым людзi прымалi iншыя рашэньнi. Магчыма, гэта зьвязана з пэўным расчараваньнем. Вы не перадумаеце праз нейкi час?***

– Трэба разумець матыў маёй пазiцыi. Я гэта раблю ня дзеля кагосьцi, я гэта раблю дзеля сябе. Я не магу спакойна жыць тут, калi бачу, што вакол мяне творыцца бязьмежжа. Больш за тое, я не хачу рабiць такi падарунак Лукашэнку – проста ўзяць i ўсё кiнуць. Кожны чалавек сёньня павiнен разумець, што калi ёсьць хаця б адзiн беларус, якi змагаецца з рэжымам – у рэжыму не разьвязаныя рукi. Няхай сёньня палiтыкi, праваабаронцы ня ў стане ўсiм дапамагчы. Але сам факт таго, што яны ёсьцы працуюць, ужо зьвязвае рукi дыктатуры. Дыктатура вымушаная лiчыцца з супрацьдзеяньнем. Няхай я не даб'юся сваёй мэты ў палiтыцы. Але сам факт майго iснаваньня, маёй дзейнасьцi будзе спрыяць таму, што некаму стане лягчэй. Значыць, будзе спакайней мне. Чаму я ў сваёй краiне не магу адстойваць свае iнтарэсы? Чаму я павiнен зьязджаць адсюль? Няхай зьязджае Лукашэнка, напрыклад, у Расiю. Я з Беларусi нiкуды не зьбiраюся зьязджаць.

**Гутарыла Тацяна РЭВЯКА.**

# Хроніка

*15 сакавіка* ў Маладэчне былі затрыманыя двое сяброў Маладога Фронту – ***Максім Гурскі*** і ***Алесь Рыдзеўскі***. Маладафронтаўцы раздавалі праваабарончыя выданьні на вуліцах гораду, калі да іх пад'ехалі супрацоўнікі міліцыі. Затрыманыя дастаўленыя ў гарадзкі аддзел міліцыі. Прадстаўнікам Праваабарончага цэнтру "Вясна" і Беларускага хельсінскага камітэту, якія прыехалі ў аддзел, дзяжурны маёр міліцыі паведаміў, што ў пастарунку маладых людзей пратрымаюць тры гадзіны і затым адпусьцяць, не ўдакладніўшы – ці будуць хлопцы ў нечым абвінавачаныя.

*18 сакавіка* ў судзе Савецкага раёну г. Мінску адбыўся суд над лідэрам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) ***Мікалаем Статкевічам***, якога абвінавачвалі па арт. 167.3 ч.2 Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэньнях РБ за арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі). У выніку судовага разгляду М. Статкевіч быў прызнаны вінаватым у парушэньні адміністратыўнага заканадаўства і атрымаў пакараньне ў выглядзе 10 сутак адміністратыўнага арышту.

*25 сакавіка* ***Вольга Завадзкая*** (маці аператара ОРТ Дзьмітрыя Завадзкага), яго жонка ***Сьвятлана Завадзкая*** і прадстаўнік Сьвятланы Завадзкай – ***Сяргей Цурко*** падалі скаргу ў Вярхоўны суд на прысуд Мінскага абласнога суда па справе аб зьнікненьні Дзьмітрыя Завадзкага. Адвакат Сяргей Цурко гаворыць: "У прысудзе Мінскага абласнога суда нас не задаволіла тое, што пры супярэчлівасьці і недастатковасьці доказаў у выкраданьні Завадзкага прызналі вінаватымі Ігнатовіча і Маліка. А тыя доказы, якія пакладзеныя ў аснову прысуду, здабытыя з вельмі вялікімі парушэньнямі. Засталося вялікае пытаньне – яны ці не яны вінаватыя ў зьнікненьні Дзьмітрыя Завадзкага. Мы патрабуем закрыцьця крымінальнай справы па эпізодзе, зьвязаным з Завадзкім, у адносінах да Ігнатовіча і Маліка з-за недаказанасьці. Калі гэта адбудзецца, то будзе працягнутае расьсьледаваньне, Дз. Завадзкага будуць інтэнсіўна шукаць. Бо недастаткова ведаць, што Завадзкага выкралі, трэба ведаць, што з ім адбылося далей. На дадзены момант мы ня ведаем адказу на асноўнае пытаньне – дзе Дзьмітры Завадзкі?".

*27 сакавіка* ў судзе г.Рэчыца (Гомельская вобласьць) павінен быў адбыцца судовы разгляд крымінальнай справы Наталі Брэль (па арт. 367 ч.1 КК РБ — паклёп у адносінах да прэзідэнта і арт. 368 ч.1 КК – абраза прэзідэнта РБ). Але абвінавачаная ***Наталя Брэль*** у чарговы раз не зьявілася на судовае паседжаньне, нягледзячы на тое, што быў аформлены прымусовы прывод. У сувязі з гэтым суд быў адкладзены на няпэўны час. Між тым зьявілася інфармацыя, што Наталя Брэль пакінула тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і знаходзіцца ў Бельгіі, дзе зьвярнулася да ўладаў з просьбай аб прадастаўленьні палітычнага прытулку. Калі гэтая інфармацыя пацьвердзіцца, не выключаная магчымасьць разгляду крымінальнай справы завочна, г.зн у адсутнасьць абвіначанай.

*27 сакавіка* ў офіс ГА "Цэнтр па правах чалавека", які ўзначальвае вядомая адвакат ***Вера Страмкоўская***, патэлефанаваў участковы Партызанскага РУУС і паведаміў, што ў адносінах да адваката з Беларускай вайсковай пракуратуры паступіў матэрыял аб узбуджэньні крымінальнай справы. Участковы прыбудзе ў офіс ГА "Цэнтр па правах чалавека" дзеля размовы з адвакатам па дадзенай нагодзе 28 сакавіка 2002 году да 16 гадзінаў. У той жа час у офіс запрашаюцца журналісты і Чацьвярухін Ю.А., жонку якога зьбіў на аўтамабілі сын старшыні Гарадзкога суда Ардзяка Ф.М. Справу Чацьвярухіна Ю.А. вядзе адвакат Вера Страмкоўская. У сувязі з чым за апошнія 2 месяцы яна падвяргалася ціску з боку Ардзяка М.М. – старшыні Мінгарсуда – і Беларускай вайсковай пракуратуры, якая накіравала матэрыял аб прыцягненьні адваката В. Страмкоўскай да дысцыплінарнай адказнасьці ў Мінгаркалегію адвакатаў і матэрыял аб узбуджэньні супраць яе крымінальнай справы ў РУУС Партызанскага раёну г.Мінску.

Кантактны тэлефон ГА "Цэнтр па правах чалавека": 268-40-00 у Мінску.

***У сакавіку*** Гарадзенскі выканаўчы камітэт адмовіў жыхарам Гародні ***Сьвятлане Нех*** і ***Дзьмітрыю Іваноўскаму*** ў правядзеньні пікетаў супраць крымінальнага перасьледу журналістаў Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Пікеты планавалася правесьці ў адным з самых шматлюдных месцаў гораду – каля Дому сувязі. Акцыя мела прайсьці пад агульным дэвізам "Маю права!". Аднак гарвыканкам у асобе яго старшыні Аляксандра Антоненкі і кіраўніка справамі Аляксандра Калачова ня толькі адмовіў у правядзеньні пікетаў, але і зьвярнуў увагу заяўнікаў "на асабістую адказнасьць у выпадку правядзеньня пікетаў без атрыманьня згоды гарадзкога выканаўчага камітэту". Гэтым жа рашэньнем Сьвятлана Нех і Дзьмітрый Іваноўскі папярэджаныя аб тым, што і ў далейшым, гарвыканкам ня будзе даваць ім згоды на правядзеньне ў Гародні грамадзкіх акцыяў. Рашэньне гарвыканкаму матываванае тым, што "вышэйназваныя грамадзяне шматразова парушалі патрабаваньні дзеючага заканадаўства пры арганізацыі розных грамадзкіх акцыяў". Сьвятлана Нех і Дзьмітры Іваноўскі плануюць абскардзіць гэтае рашэньне ў судзе.

***У сакавіку*** бацька Андрэя Зайцава, які 20 сьнежня 2001 году скончыў жыцьцё самагубствам пасьля спробы вярбоўкі з боку сьпецслужбаў, ***Юры Зайцаў*** падаў пісьмовую скаргу старшыні Гомельскага абласнога суда. Старшыня Гомельскага абласнога суда прыняў скаргу і сказаў "Чакайце адказу!". Справа ў тым, што суд Савецкага раёну г.Гомелю адмовіўся разглядаць па сутнасьці скаргу Юрыя Зайцава на пастанову сьледчага пракуратуры Савецкага раёну г. Гомелю аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы па факце самазабойства яго сына Андрэя Зайцава. Юры Зайцаў і яго абаронца Дзьмітры Іванішка лічаць рашэньне суда Савецкага раёну незаконным і парушаючым іх правы і будуць дамагацца ўзбуджэньня крымінальнай справы з прычыны давядзеньня да самазабойства Андрэя Зайцава. Гаворыць адвакат Дзьмітры Іванішка: "Ёсьць факт, што мела месца давядзеньне да самазабойства. Ёсьць передсьмяротнае пісьмо Андрэя Зайцава, дзе ён адкрыта гаворыць пра ціск з боку сьпецслужбаў, ёсьць аўдыёзапіс яго размоваў з супрацоўнікам КДБ. Але, каб гэтае давядзеньне да самагубства было з боку якога-небудзь Васі з вуліцы, то праверку можна было б зрабіць без праблем. Але паколькі ў гэтым канкрэтным выпадку замешаныя сьпецслужбы, гэта вельмі цяжка. Я пачаў праводзіць апытаньне людзей, якія непасрэдна кантактавалі з Андрэем Зайцавым. Людзі з асяродзьдзя Андрэя ведалі, што на яго аказваецца ціск, ён расказваў сябрам пра сваю сітуацыю Мне ўжо далі тлумачэньні тры чалавекі". На сёньняшні дзень матэрыялы па справе Зайцава знаходзяцца ў пракуратуры Савецкага раёну г.Гомелю.

*31 сакавіка* – суд над журналістамі забароненай уладамі гарадзенскай газеты "Пагоня" ***Міколам Маркевічам*** і ***Паўлам Мажэйкам*** прызначаны на 9 красавіка. Журналісты абвінавачваюцца ў паклёпе на прэзідэнта (арт. 367, ч.2 Крымінальнага кодэксу), што караецца пазбаўленьнем або абмежаваньнем волі на тэрмін да 5 гадоў. Разглядаць справу будзе суд Ленінскага раёну г. Гародні, старшынёю на працэсе судзьдзя Мікалай Сяргейка.



***28 сакавіка*** *беларускія свабодныя прафсаюзы правялі пікетаваньне супраць пастаяннага пагаршэньня ўмоваў жыцьця, затрымак у выплаце заробкаў і пенсіяў, што сталі ў нашай краіне звычайнай справай...*

# Супакаяльная для МУС

Цікавы мітынг меў месца нядаўна ў Мінску. Не, не Дзень Волі, традыцыйна сапсаваны міліцэйскай актыўнасьцю. Гэты мітынг праходзіў на сумнавядомай плошчы Бангалор і не атрымаў шырокага розгаласу ў СМІ. Тым ня менш, менавіта ён, а не бел-чырвона-белае шэсьце, стаўся адной з галоўных падзеяў мінулых двух тыдняў. Уявіце сабе, арганізатарамі і ўдзельнікамі згаданай вулічнай акцыі былі супрацоўнікі МУС. Калі вы такое бачылі?! Далей болей: паводле паведамленьняў FM-радыёстанцыяў, міліцыянты патрабавалі свабоды для сваіх былых калегаў Марата Новіка і Юрыя Труса, асуджаных за перавышэньне службовых паўнамоцтваў. Сьцьвярджалі, што ў краіне разгорнутая кампанія па дыскрэдытацыі МУС з мэтай зьняцьця міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава.

Варта заўважыць, што суд над названымі асобамі быў закрыты і меў на мэце схаваць "метады працы апаратыўных службаў". (Дарэчы, па ініцыятыве саміх міліцыянтаў). Што ж падштурхнула людзей у пагонах публічна выказаць свае (?!) думкі, свой пратэст? Тым больш, што гісторыя герояў драмы – супрацоўнікаў Цэнтральнага РУУС г. Мінску – даволі тыповая, можна нават сказаць, банальная. Невядомыя абрабавалі адну сталічную кватэру. Выкліканым міліцыянтам гаспадыня назвала "важную" прыкмету зламысьнікаў. Маўляў, апранутыя тыя былі ў чорныя курткі. Людзі з "органаў" доўга ня думалі – схапілі на вуліцы першых жа двух хлопцаў-"чорнакуртачнікаў". У пастарунку з "западозраных" на працягу некалькіх гадзінаў выбівалі "падрабязнасьці рабаўніцтва". Праўда, бравым ахоўнікам парадку гэтым разам такія выпрабаваныя сродкі пераконваньня як супрацьгаз, гумавыя палкі, пазіцыя "ластаўка" не дапамаглі: "прызнаньняў" яны не дамагліся. Але ж гэта дробязь. Усё было б як сьлед, як і заўсёды, але... У затрыманых, як выявілася, меліся высокапастаўленыя сваякі і знаёмыя ў пракуратуры і міліцыі. Менавіта гэтая акалічнасьць урэшце рэшт і сталася трагічнай для сьледчых-экзэкутараў. Нягледзячы на тое, што склад злачынства першапачаткова не знайшлі ні раённая пракуратура, ні ўласная мусаўская служба бясьпекі, злачынцы паўсталі перад судом і атрымалі заслужанае пакараньне...

Як жа ў такім выпадку патлумачыць мітынговую актыўнасьць таварышаў асуджаных? Ды вельмі проста! Склаўся прэцэдэнт, калі "ўпыру" (так завецца міліцыянт, які парушыў закон) давялося адказваць за свае ўчынкі. На жаль, мусім супакоіць абаронцаў Новіка і Труса: справа апошніх – гэта ня тая цагліна, пазбавіўшыся ад якой, можна разбурыць сістэму.

А тое, што катаваньні ў беларускіх міліцэйскіх пастарунках не прыкрая выпадковасьць, а менавіта СІСТЭМА працы нашых праваахоўных органаў, сьцьвярджаюць усе, каму давялося патрапіць на нейкі час у пастарунак. Сьведчыць пра гэта і мой асабісты журналісцкі досьвед. Так адзін знаёмы міліцыянт распавядаў, што пасьля сканчэньня Акадэміі яго адмыслова праводзілі праз "прысьвячэньне ў оперы" – прымусілі зьбіваць затрыманых. І гэтак, па яго ных словах, рабілі з кожным пачаткоўцам. Пазьней я спрабаваў абараніць ад міліцэйскага самаўпраўства дзвюх безабаронных жанчынаў, якія зьведалі на сабе зьбіцьцё і сэксуальнае дамаганьне ўчастковага аднаго з мінскіх РУУС. Вынікам стала толькі маё звальненьне з былога месца працы. Участковы ж як працаваў, так і працуе на "адказным участку". Нам не дапамаглі ні зварот у пракуратуру, ні публікацыі ў прэсе, ні вынікі медэкспертызаў, ні наяўнасьць шматлікіх ускосных сьведчаньняў на нашую карысьць. А ведаеце, хто быў сярод тых, хто "адмазваў" участковага-нягодніка? Той самы міліцэйскі чын, што даў ход справе Новіка і Труса. Такая вось роля сваяцтва...




А цяпер адкажыце самі, ХТО дыскрэдытуе органы правапарадку. І як доўга можа пазьбягаць адказнасьці за іх стан Міністр унутраных справаў? Дарэчы, якраз Уладзімір Навумаў узначальвае міжведаманую групу па пошуку зніклых у Беларусі людзей, а раней пад ягоным кіраўніцтвам у Службе аховы прэзідэнта працавалі менавіта тыя людзі, чые прозьвішчы называюцца ў якасьці выканаўцаў "зьнікненьняў", у тым ліку і асуджаныя "па справе Завадзкага" Ігнатовіч і Малік...

**Вадзім ДОЎНАР.**

*Пошта*

# "Хочацца быць пачутым..."

***У Праваабарончы цэнтр "Вясна" прыйшоў ліст з калоніі строгага рэжыму, што ў г. Глыбокае на Віцебшчыне. Аўтар яго Сяргей Праціраеў ужо вядомы нашым чытачам – ён два гады прасядзеў у камеры сьмяротнікаў – расказвае пра сёньняшняе жыцьцё зьняволеных у адной з самых вядомых беларускіх "зонаў". Дзякуй, нам цікавая любая інфармацыя, што прыходзіць з-за кратаў.***

Сяргей Праціраеў піша: "Справу супраць мяне ўзбудзілі ў 1996 годзе. Судзьдзя Ткач вынесла мне прысуд – "расстрэл". Два гады я пасядзеў у камеры сьмяротнікаў у СІЗА на Валадарцы. І мне дагэтуль ніколі не хочацца ўзгадваць пра ўсё тое, што я там перажыў, чуў і бачыў. Пасьля ў 1999 годзе Указам прэзідэнта мне зьмянілі "расстрэл" на 20-ці гадовае зьняволеньне.

У калоніі я атрымліваю рэгулярна бюлетэні "Права на волю". Мне і іншым асуджаным прыемна ад таго, што "Вясна" праводзіць такую патрэбную працу. А з іншага боку – шмат якая інфармацыя пра тое, што адбываецца ў краіне, проста шакіруе нас. Тут у нас з дня ў дзень таксама не лягчэй.

Зона тут не рабочая, але калі праца ёсьць, дык за яе "зэк" атрымлівае 370 рублёў у месяц. Так-так, не тысячаў, а рублёў. А за якія сродкі плаціць дзяржпошліны для адпраўкі скаргаў?

Зону нашую цяпер "забілі да адказу" – камеры перапоўненыя. Мы, асуджаныя на вялікія тэрміны, сядзім у камерах пад замком. Няма магчымасьці на прагулку нармальна выйсьці, каб падыхаць такім неабходным для "зэка" кіслародам. Вельмі малыя памеры прагулачнага дворыка, дзе знаходзіцца на прагулцы 400 чалавек. У лазьні – кашмар, распранальня памерамі 3х5, а сама лазьня 5х10. А ў бескамерных бараках наогул нары стаяць у тры ярусы. У бараку, дзе 300 чалавек, у адзінай прыбіральні стаіць толькі тры ўнітазы. Тут няма сэнсу гаварыць пра нейкую гігіену. На доўгатэрміновых спатканьнях не дазваляецца мець аўтаручкі, каб нельга было нешта напісаць.

Медсанчастка без медыкаментаў ужо з паўгоду. Я хварэю два месяцы, хадзіў прасіў, каб мяне абсьледавалі. Мне толькі праз месяц зрабілі рэнтген лёгкіх. Вынік шакіруючы – я на нагах перанёс плеўрыт, і ў мяне засталася вадкасьць у лёгкіх – гэта ж паўкроку да туберкулёзу. Апрача таго, хвароба дала ўскладненьне на сэрца. Мне рабілі ўколы, якія даслалі з волі мае родныя, дзякуй ім вялікі.

Напісаць хочацца шмат чаго. Хочацца быць пачутым. У мяне ёсьць пытаньне: ці існуюць якія-небудзь міжнародныя арганізацыі для аказаньня дапамогі такім як я і для больш даступнага абмену інфармацыяй?

Яшчэ раз дзякуй усім Вам за Вашую працу.

З павагай

**Сяргей ПРАЦІРАЕЎ.**

*Адрас: 211800 Беларусь, Віцебская вобл. г.Глыбокае, УЖ 15/13 –ПКТ-22, атрад 24.*

# Хто падштурхоўвае "Завтра"?

## або Як Міністэрства інфармацыі РБ "не заўважае" расійскіх чырвона-карычневых

У той час, калі з-за хранічнага недахопу сродкаў старэйшыя беларускія літаратурныя газеты і часопісы аб'ядноўваюць у дзяржаўныя холдынгі, калі заробак у газеце "Літаратура і мастацтва", часопісах "Крыніца", "Полымя", "Мастацтва", "Маладосьць" не выплочваецца па некалькі месяцаў, а пра ганарары, падобна, усе ўжо і забыліся, у Беларусь па-гаспадарску прыйшла сумнавядомая расійская газета "Завтра". Раней папярэднік беларускага "Славянского набата" толькі зрэдку прадаваўся з рук паблізу Камароўскага рынку. Цяпер жа мясцовае лобі адыёзнай маскоўскай газеты адчула сябе ўпэўнена.

Нагадаем, што першая спроба беспершкодна распаўсюджваць "Завтра" на беларускай зямлі адбылася два гады таму. Аднак пасьля адпаведнага артыкулу ў "Белорусской деловой газете", "Завтра" хуценька прыбралі са ўсіх шапікаў "Белсаюздруку". У згаданым артыкуле ня толькі мелася характарыстыка "новай" газеты, але і ўказвалася на зацікаўленыя ў яе распаўсюдзе арганізацыі. Аднак, як бачым, пацярпеўшы паразу, экзальтаваныя спадары не супакоіліся, і "Завтра" ўжо два месяцы прадаецца ў беларускіх рэгіёнах. Ня выключана, што бліжэйшым часам дабярэцца "Завтра" і да сталіцы.

Там, хто ня ведае, паведамляем: размова ідзе зусім не пра шэранькае выданьне ўлёткавага кшталту. "Завтра" уяўляе сабой, бадай, галоўны друкаваны орган расійскай апазіцыі чырвона-карычневага кірунку. Дарэчы, пад такім вызначэньнем выдаўцы газеты самі неаднойчы падпісваліся і да 1996 году называлі яе "газетой духовной оппозиции". Цяпер жа яна "паднялася" да "газеты государства российского". Рэдактар выданьня — пісьменьнік Аляксандр Праханаў сам сябе лічыць чырвона-карычневым, пра што сьведчыць ня толькі зьмест рэдагуемага ім выданьня, але і праханаўскі раман з аналагічнай вызначэньню назвай. Урэшце, кім яшчэ можна назваць чалавека, які мірна размаўляе (газетныя матэрыялы займалі ўнушальныя плошчы) з лідэрам Рускага нацыянальнага адзінства Аляксандрам Баркашовым і які падтрымаў антысеміцкія выступы Альберта Макашова? Што дзіўна, зьяўленьня ў кампаніі гэтых людзей не саромеюцца і збольшага "рэспектабельныя" Генадзь Зюганаў і Віктар Ілюхін. Артыкулы іх аўтарства і інтэрв'ю з імі — пастаянная з'ява на старонках "Завтра".


*"Славянскае" велікоднае яйка.*

Увогуле, гэтае выданьне зьдзіўляе сваёй здольнасьцю сумяшчаць несумяшчальнае. Папулярызацыю РНЕ і віншаваньні ветэранам ВАВ, камуністычную ідэалогію і прысутнасьць уласнага "духоўнага настаўніка" з ліку праваслаўных сьвятароў. Усё гэта выгадна адрозьнівае "Завтра" ад артадаксальнай "Правды". Тым ня менш, "ускладняць" ня любяць і тут. Вось, напрыклад, як "заўтрашнікі" ставяцца да праблемы сьмяротнага пакараньня: "Не надо казнить вымирающий народ. Надо устроить одну — единственную публичную казнь над Чудовищем, которое разрушило великую страну, расстреляло из танков Верховный Совет, уничтожило все ремёсла и знания, осквернило все святыни и ценности, и вот уже который год вкалывает себе в брюхо омолаживающий элексир, приготовленный из крови русских младенцев. Из чрева несчастных женщин выковыривают эмбрионы, пропускают сквозь давилки и мясорубки, смешивают с колдовским отваром и впрыскивают в гниющее тело Людоеда, повышая его гемоглобин".

Як бачым, свае ідэі чырвона-карычневыя нясуць у масы максімальна даступнай для іх мовай. Калі пры згадцы няўгоднага палітыка проста "забываюць" напісаць яго ініцыялы, дык гэта можна лічыць выпадковасьцю. Часьцей жа апаненты «узнагароджваюцца» ганьбячымі іх вызначэньнямі кшталту «говорливый, словно струйка в сливном бачке». Назвы артыкулаў тыя яшчэ: "В могилу Ельцина вгонят кол", "И страшен будет ваш удел, враги", "Двенадцать отрубленных голов президента", "Добить и замириться", "Горбачёв и Яковлев встают из могил". Некаторыя загалоўкі ўвогуле можна разглядаць як заклік да гвалтоўнай зьмены улады быццам бы саюзнай нам Расіі. Можна ўявіць, як адрэагуе беларускае Міністэрства інфармацыі, калі ў мясцовай незалежнай газеце зьявіцца кліч кшталту "Беларус, час помсьціць!". Аднак жа не заўважаць пашырэньне чытацкай аўдыторыі "Завтра" Міністэрства інфармацыі лічыць для сябе магчымым. Далей-болей. У "Белсаюздруку" нам патлумачылі, што расійскія выданьні пры адсутнасьці супраціву з боку Міністэрства інфармацыі могуць распаўсюджвацца ў межах адзінага інфармацыйнага поля. Вось толькі ўзаемаразлікі паміж суб'ектамі гаспадараньня неабходна ажыцьцяўляць у беларускіх рублях. А дзеля гэтага расіянам патрэбны мясцовы пасярэднік. Вось тут мы падыходзім да яшчэ аднаго цікавага моманту: такім пасярэднікам стала небезвядомае ЗАА "Православная инициатива", якое ўзначаліла ў Беларусі "антысеміцкі фронт".

Варта адзначыць, што ўлётачныя "Даёшь!" – дробязь у параўнаньні з той ідэалагічнай глебай, што падкладаецца пад антыгабрэйскую, антыпольскую, антылітоўскую, антыўкраінскую прапаганду. Прэса ўжо неаднойчы пісала аб тым, як, выдадзеную ўсё тым жа ЗАА, адкрыта юдафобскую кнігу "Война по законам подлости" беларускі суд назваў навуковай працай. Дык вось, газета "Завтра" ня толькі ня лічыць патрэбным асуджаць гэты факт, але і заклікае выдаць кнігу ў Расіі.

Па ўсім бачна, што прыхільнікаў сваёй творчасьці Праханаў і К° знайшлі ня толькі ў нашым Міністэрстве інфармацыі, але і ў "парламенце". Прынамсі адзін "дэпутат" – Сяргей Касьцян – ужо быў заўважаны у распаўсюджваньні падобнай літаратуры наўпрост у зале паседжаньняў. (Сяргей Іванавіч падараваў усяму калектыву "палаткі" па асобніку "Войны по законам подлости"). А нядаўна ён накіраваў у "ЛіМ" дзеля друку артыкул, скіраваны супраць Сьвятланы Алексіевіч і Васіля Быкава. Трэба разумець, што і пісаніна сьпецкарэспандэнта "Завтра" па Беларусі Яўгена Росьцікава яму дужа даспадобы. Як бы тое ні было, але "накіраваны" артыкул шмат у чым пераклікаецца са зьместам росьцікаўскіх «Ржавых перьев», дзе "бездарными, бесполыми существами и напыщенными бездарями" былі названыя амаль усе класікі беларускай літаратуры. Чалавек, які мае даволі ўмоўнае дачыненьне да мастацтва, ня ведае ні гісторыі карэннай нацыі, ні яе мовы, дазваляе сабе рабіць такія высновы.

Сёньня "ЛіМ" па эканамічных прычынах фактычна перастаў быць штотыднёвікам, адчувальныя праблемы ў іншых беларускіх выданьняў. Іх ужо ня могуць выпісваць бібліятэкі – дзяржава не вылучае сродкаў. Ня будзе дзіўным, калі з часам той жа "ЛіМ" і іншыя беларускія выданьні ў бібліятэках заменіць "Завтра". Апошняя, між іншым, у розьніцу ўжо каштуе значна таньней, чымсьці айчынная прадукцыя. Але ж ці патрэбнае беларусам такое "Завтра"?

**Вадзім ДОЎНАР.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англійскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna@spring96.org www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"